ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№10 (31) кастрычнік 2013 год
ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ
Кошт свабодны

## Папа – арцыбіскупу Кандрусевічу: "Хачу ведаць усе аспекты справы ксяндза Лазара"

**3 кастрычніка 2013 г. падчас кароткай размовы з арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам – Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім, святаром чыёй архідыяцэзіі з'яўляецца арыштаваны кс. Уладзіслаў Лазар, Пантыфік пацікавіўся ў іерарха "як выглядаюць справы" з арыштаваным.**



"Папа выказаў сваю вялікую занепакоенасць гэтай справай і сказаў, што ён хоча ведаць, як яна развіваецца і будзе развівацца, як будзе вырашацца гэтая справа", – сказаў арцыбіскуп Кандрусевіч у інтэрв'ю Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё. Іерарх, які зараз знаходзіцца з візітам у Рыме, прызнаўся, што "быў моцна крануты" ўвагай Святога Айца. "Тое, што Папа дэманструе сваю блізкасць да людзей, – гэта не напускное, не штучнае, ён ёсць такі", – сказаў іерарх.

Мітрапаліт лічыць Святога Айца "адным з нашых", "ён такі ж, як беларусы, адкрыты для ўсіх і для кожнага".

**крыніца:** Ватыканскае радыё



# Любоў ацаляе

**18 кастрычніка валанцёры руху св. Францішка наведалі дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў у Віцебску.**

**■ Ганна Кулікова, тэкст, Марыя Кісель, фота**

"Пакуль маем час – чынім дабро" – менавіта з такім лозунгам дзейнічае хрысціянскі валанцёрскі рух святога Францішка ў Віцебску. Валанцёрамі гэтага руху з'яўляюцца студэнты з розных куткоў Беларусі, якія, нягледзячы на ўсю цяжкасць студэнцкага жыцця, жадаюць дзяліцца з бліжнімі дабрынёй і шчырасцю свайго сэрца.

"Наша мэта, – як кажа адзін з валанцёраў, – гэта прыносіць самотным і хворым людзям у іх штодзённае шэрае жыццё хвілінкі радасці і супакою. Усё, што я магу ахвяраваць для гэтых людзей, – маё добрае сэрца і маю любоў да Бога, бо ўсё тое, што мы робім, робім на Божую хвалу".

Рух апякуецца хворымі і самотнымі людзьмі, старэйшымі асобамі, а таксама выхаванцамі дзіцячых дамоў, дорачы ім сваю ўвагу праз звычайную размову, заняткі, спевы, танцы і маленькія сувеніры, зробленыя ўласнымі рукамі.

З нагоды мінулага Дня састарэлых асобаў валанцёры руху св. Францішка 18 кастрычніка наведалі дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў, што месціцца на праспекце Фрунзэ ў Віцебску, з невялічкай канцэртнай праграмай.

Гледачам была прадстаўлена сцэнка пад назвай "Любоў ацаляе". Падчас дзеі галоўныя героі імкнуліся перадаць вартасць любові ў жыцці, якая, нягледзячы на ўсе цяжкасці, заўсёды перамагае і можа ацаліць не толькі цела, але і душу.

Не пакінулі нікога абыякавымі і прачытаныя вершы, якія краналіся самых патаемных куткоў чалавечай душы. Цудоўнай аздобай усёй праграмы былі прыгожыя спевы на беларускай, рускай і нават на англійскай мовах. Спявала не толькі моладзь, спявалі бабулі, выціраючы слёзы на сваіх тварах, спявалі і дзядулі, якія таксама не маглі стрымаць пачуццяў, спявала нават дырэктар дома састарэлых, падбадзёрваючы сваіх падапечных. На працягу ўсёй сустрэчы панавала сямейная атмасфера, добры настрой, лёгкая ўсмешка суправаджалі твар кожнага прысутнага там чалавека.

**Працяг чытайце на стар.2**









### Дарагія сябры!

Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік". Кошт падпіскі на месяц – **3000 рублёў**. Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс 63783**

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. "Каталіцкі Веснік" таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падтрымце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***



## Каталіцкі Касцёл у Сібіры

**Позірк у мінулае**

Сібір... Для многіх, хто чуе гэтае слова, адразу прыходзяць на думку доўгая зіма, вялікія марозы і бясконцая тайга. Таксама некаторыя прыгадаюць часы рэпрэсій, паўстанняў і шмат ссыльных людзей з Украіны, Беларусі, Польшчы і Літвы, якія трапілі ў гэтую частку Расіі.

Сярод ссыльных было шмат інтэлігенцыі, шмат людзей, адданых сваёй Радзіме, і шмат з моцнай верай у сэрцы. Можна сказаць, што дзякуючы ім у Сібіры захаваліся хрысціянскія каштоўнасці і традыцыі.

Напрыклад, у Іркуцку і па сённяшні дзень узвышаецца прыгожы і велічны касцёл, пабудаваны ссыльнымі палякамі.

**Працяг чытайце на стар.3**

## АПОСТАЛЬСКІ НУНЦЫЙ СУСТРЭЎСЯ З КСЯНДЗОМ УЛАДЗІСЛАВАМ ЛАЗАРАМ



Апостальскаму Нунцыю ў Беларусі арцыбіскупу Клаўдыё Гуджэроці 25 кастрычніка дазволілі сустрэцца з ксяндзом Уладзіславам Лазарам у следчым ізалятары КДБ, дзе ўжо некалькі месяцаў знаходзіцца арыштаваны святар.

Сустрэча працягвалася каля гадзіны і адбывалася ў прысутнасці адказнага за следства і прадстаўніка Міністэрства замежных спраў Беларусі, які выконваў абавязкі перакладчыка.

Пасланнік Папы запэўніў арыштаванага ксяндза ў асабістай падтрымцы Папы Францішка і ўсяго Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, які з пільнай увагай суправаджае святара безупыннай малітвай.

**Працяг чытайце на стар.2**

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага блаславення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Станіслава Жук** (в. Мосар, Глыбоцкі р-н), **Вікторыя Свідэрская** (в. Коты, Шаркаўшчынскі р-н), **Аліцыя** (г. Паставы), **Тэрэза Сурвіла** (г. Глыбокае), **Вераніка Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Марыя Матус** (г. Валожын), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Вольга Парневіч** (агр. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **А. В. Бабарыка** (в. Ваўкалата, Докшыцкі р-н), **Вераніка Гінько** (г. Глыбокае), **Яніна Курдзека** (г. Глыбокае), **Ганна Карніловіч** (в. Шунеўцы, Глыбоцкі р-н), **Тадэвуш Ткачонак** (г. Глыбокае), **Ірына Мікаілава** (г. Глыбокае), **Леанід Грыбач**, (г. Гомель), **Ганарата Ляхновіч** (г. Барысаў), **Яніна Вяршэль** (в. Вігушкі, Іўеўскі р-н, Гродзенская вобл.), **Вольга Баранава** (г. Браслаў), **Яна Парфяновіч** (г. Браслаў), **Галіна Глушкевіч** (в. Віржы, Докшыцкі р-н), **Юзэфа Афанасенка** (г. Полацк), **Мар'ян Бурмбліс** (г. Паставы).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку! Раскажыце сваім родным і знаёмым пра “Каталіцкі Веснік”. Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

# БЕЛАРУСКІ СВЯТАР-ДЫПЛАМАТ СТАЎ КАПЕЛАНАМ ЯГО СВЯТАСЦІ ПАПЫ

**Беларускі святар-дыпламат стаў капеланам Яго Святасці Папы. 1 кастрычніка 2013 г. Святы Айцец Францішак далучыў да ліку сваіх капеланаў кс. Аляксандра Рагіню – святара Віцебскай дыяцэзіі, які з 2010 г. знаходзіцца на дыпламатычнай службе Святога Пасада.**



Выпускнік Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне, ён скончыў адну з самых прэстыжных навучальных устаноў Каталіцкага Касцёла – Папскую дыпламатычную акадэмію (Pontificia Accademia Ecclesiastica), якая займаецца падрыхтоўкай святароў да дыпламатычнай службы Апостальскай Сталіцы, а таксама да працы ў Дзяржаўным сакратарыяце Святога Пасада. Кс. прэлат Аляксандр Рагіня на самым пачатку сваёй дыпламатычнай кар'еры працаваў у ватыканскім прадстаўніцтве ў Эквадоры, зараз жа з'яўляецца сакратаром Апостальскай нунцыятуры ў Астане.

Ганаровы тытул капелана Яго Святасці Папы (лац.CappellanisSanctitatis Suae) – гэта знак прызнання духоўных заслуг святара перад Касцёлам. Ён мае права насіць чорную сутану з фіялетавымі элементамі і накладаць на яе фіялетавы пас. Ганаровага капелана традыцыйна называюць пралатам.

*Крыніца: Ватыканскае радыё*

**Ад рэдакцыі.** Віншуем кс. Аляксандра, нашага суайчынніка! Жадаем далейшых поспехаў у святарскім служэнні і дароў Духа Святога.

# Любоў ацаляе

*Працяг са стар.1*

У знак падзякі валанцёры атрымалі гучныя апладысменты, шматлікія добрыя словы, пажаданні (нават у вершаванай форме), слёзы радасці і шчырыя ўсмешкі. Вочы кожнага жыхара гэтага дому казалі: “Дзякуй вам за тое, што вы ёсць!” Дзякавалі не толькі бабулі і дзядулі, за тое, што пра іх памятаюць, але ўдзячны былі і самі валанцёры, за тое, што змаглі ўбачыць вартасць сваёй працы і сваю неабходнасць у жыцці гэтых людзей.

Шчырае жаданне і добрае сэрца – менавіта гэта адметная рыса кожнага валанцёра, бо быць валанцерам - сапраўдная Божая ласка, а плён валанцёрства - асалода на сэрцы за ўчыненыя добрыя справы ў імя Пана.

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Мы, парафіяне касцёла св. Айца Піа ў г.п. Лёзна, хочам расказаць пра свята, якое арганізаваў наш ксёндз Алег Півавар.

У святочны дзень 22 верасня у наш касцёл прыехала шмат гасцей: кс. Валеры з Оршы, кс. Адам і кс. Браніслаў з Віцебска, кс. Андрэй з Чашнікаў, кс. Аляксандр са Шклова, а. Дзмітрый з Віцебска, грэкакаталіцкі хор. Присутнічалі таксама прадстаўнікі Лёзненскага райвыканкама, дырэктар сацыяльнага прытулка з выхаванцамі і шмат іншых гасцей.

СвятуюІмшуцэлебравалі кс. Алег і кс. Аляксандр. Казанне прамовіў кс. Адам. Ён расказаў пра Божую Міласэрнасць, пра бясконцую любоў Бога і вечную радасць, якую Ён рыхуе для нас у небе. Набажэнства ўпрыгожваў спеў грэкакаталіцкага хору.

Пасля Святой Камуніі кс. Аляксандр удзяліў блаславеннне ўсім прысутным. Была магчымасць запісаць просьбы аб малітве праз заступніцтва Св. Айца Піа. Наш кс. Алег будзе маліцца за ўсіх людзей, за іх просьбы.

Напрыканцы імпрэзы парафіяне арганізавалі пачастунак для ўсіх гасцей.

Мы вельмі ўдзячныя нашаму кс. Алегу за свята, у арганізацыю якога ён уклаў шмат сілы, здароўя і цярпення. Таксама хочам падзякаваць усім гасцям, што прыехалі і прыйшлі да нас у касцёл на свята.

**Данута Голубева,**
парафіянка касцёла Св. Айца Піа, г.п. Лёзна

# АПОСТАЛЬСКІ НУНЦЫЙ СУСТРЭЎСЯ З КСЯНДЗОМ УЛАДЗІСЛАВАМ ЛАЗАРАМ

*Працяг са стар.1*

Ксёндз Уладзіслаў Лазар, які выглядае стомленым турэмным зняволеннем, але цвярозым і рашучым, з узрушэннем выказаў падзяку Папу. Ён таксама шчыра падзякаваў за перададзены Пантыфікам ружанец і сказаў, што арышт, які часам з'яўляецца вялікай пакутай, не перашкодзіў яму жыць глыбокім духоўным досведам. Ксёндз Лазар яшчэ раз падкрэсліў, што з'яўляецца патрыётам, любіць Беларусь і чакае справядлівага рашэння. Ён сказаў, што як вернік прабачыў тым, хто стаўся прычынай ягоных пакутаў.

Ксёндз Уладзіслаў папрасіў Апостальскага Нунцыя заахвоціць усіх да малітвы за яго і зазначыў, што адчувае блізкасць Каталіцкага Касцёла, сімвалічна прысутнага ў гучанні касцельных званоў, якое даносіцца да яго камеры.

Размова мела нефармальны, братэрскі характар і скончылася супольным пажаданнем, каб следства было завершана як мага хутчэй.

*Паводле catholic.by*

**Смаргонь**

# «ВЕЧАРЫНКА НА НЯБЁСАХ»



**У салезіянскім Моладзевым цэнтры ў Смаргоні адбылася “Вечарынка на нябёсах” з нагоды пачатку новага года ў араторыі. Для моладзі яна прайшла 5-га, а для малодшых дзяцей – 6 кастрычніка.**

■ **Валерыя Айрапецян**

Святкаванне распачыналася Эўхарыстыяй – месцам спаткання з Езусам і падзякай Айцу за нязмерныя і шчодрыя дары. Падчас Святой Імшы для моладзі чатыры аніматары нашага араторыя аднавілі свае абяцанні, а адзін кандытат быў прыняты ў аніматары.

На вечарынцы присутнічала 130 юнакоў і дзяўчат і каля 150 дзяцей, а праводзілі яе сапраўдныя салезіянскія “святыя”: Ян Боска, мама Маргарыта, Марыя Дамініка Мадзарэла, Лаўра Вікунья, Дамінік Савіа, Зеферын Намункура, П'ер Джорджа Фрасаці, Артэмідэ Дзаці.

Праз адпаведныя гульні і забавы “святыя” паказалі, як яны прыйшлі да святасці. Артэмідэ Дзаці, лекар з Аргенціны, вучыў моладзь і дзяцей старанна выконваць свае штодзённыя абавязкі. П'ер Джорджа Фрасаці, просты інжынер з сям'і багатага палітыка, заклікаў клапаціцца пра іншых. Лаўра Вікунья і Дамінік Савіа, самыя маладыя “святыя”, сваім прыкладам паказалі, як трэба любіць бацькоў і слухаць тых, хто за нас адказвае. Зеферын Намункура нагадаў аб важнасці ў выбары прыкладаў для пераймання ў нашым жыцці, бо, як гаворыцца, “скажы мне, хто твой сябар, і я скажу, хто ты”.

Але галоўная думка, якую хацеў данесці да моладзі і дзяцей кожны святы, – гэта тое, што святасць магчымая! Магчымая ў любым узросце, у любым сацыяльным стане, незалежна ад адукацыі, паходжання і іншых абставінаў! Для Бога няма нічога немагчымага! Святасць у штодзённым жыцці складаецца з простых рэчаў: заўважаць любоў Бога і быць Яму за гэта ўдзячным.

Таму “Вечарынка на нябёсах” менавіта і была падзякай Пану Богу за атрыманыя падчас летняга адпачынку ласкі, за ўсе акцыі, сустрэчы, знаёмствы... А асабліва – за сустрэчу з нашым Нябесным заступнікам, святым Янам Боскам, падчас перэгрынацыі Яго рэліквій.

Святы Ян Боска гаварыў: “Дай мне душы, а іншае забяры сабе”. Душа – гэта скарб, пра які трэба клапаціцца, берагчы яго, ачышчаць. Салезіянскія святары, сёстры і аніматары яшчэ раз прыгадалі аб гэтым моладзі і дзецям, а таксама прапанавалі канкрэтныя крокі для дасягнення святасці.

“Вечарынка на нябёсах” паказала ўсім салезіянскі прыклад святасці, як быць сумленнымі грамадзянамі і добрымі хрысціянамі, каб у будучым стаць шчаслівымі жыхарамі Неба.



# Каталіцкі Касцёл у Сібіры





Біскуп Кірыл Клімовіч удзяляе сакрамант бежмавання.

*Праця г. Пачатак на стар.1*

Зараз ён служыць як арганны зал, але для патрэбаў вернікаў выдзелены пакой, дзе змяшчаецца капліцка, да якой кожны дзень даяздждае святар на Эўхарыстыю.

І тут могуць паўстаць розныя пытанні: як жыве Каталіцкі Касцёл у Сібіры? Як развіваецца? Як жывуць католікі Расіі і з якімі перашкодамі сустракаюцца святары ў сваёй паслузе на гэтай зямлі?

### Біскуп Кірыл Клімовіч пра сваю Іркуцкую дыяцэзію

Адказы на гэтыя надзённыя пытанні паспрабуем знайсці, лепш прыгледзеўшыся да адной з дыяцэзій Расіі, а менавіта да Іркуцкай дыяцэзіі св. Юзафа, якая з'яўляецца самай вялікай па тэрыторыі не толькі ў Расіі, але ва ўсім свеце. Яе біскупам з 15 чэрвеня 2003 года з'яўляецца Кірыл Клімовіч, які шмат гадоў працаваў у Беларусі – у Глыбокім (Віцебская дыяцэзія). Яго біскупскае пасвячэнне адбылося 4 снежня 1999 г. у Мінску, потым служыў як дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі. Паводле яго слоў,"каталікі ў Іркуцкай дыяцэзіі – гэта не толькі прыезджыя ці нашчадкі ссыльных, але і мясцовыя жыхары: якуты, бураты і інш. Шмат укладваем у развіццё дабрачыннай дзейнасці, існуе "Карытас". Таксама ў нас працуюць дзіцячыя садкі пры парафіях у такіх гарадах, як Ангарск, Чыта і Брацк. Дзейнічае і вялікі дом для бяздомных людзей.

Паслуга ў нас палягае на гатоўнасці першым выйсці да людзей, заўсёды быць гатовым на размову з кожным чалавекам. Евангелізацыя існуе дзякуючы малітве і ахвярнаму жыццю нашых святароў, законных братоў і сясцёр, але і, канешне, дзякуючы малітве саміх вернікаў.

Працы шмат, але вось святароў і сясцёр не хапае! Зараз у нас працуюць святары з розных куткоў зямлі: з Польшчы, Амерыкі, Славакіі, Інданэзіі, Карэі, Аргенціны. Ёсць таксама тры ксяндзы, якія паходзяць з Расіі. Таму будзем рады кожнаму, хто захоча працаваць разам з намі для пашырэння Евангелля на Сібірскай зямлі!"

### Праца для людзей і сярод людзей

Тут трэба заўважыць, што святары асаблівым чынам клапоцяцца пра духоўнае сталенне вернікаў, хоць часта ў касцёлах іх зусім невялікая колькасць.

Вельмі часта можна спаткаць пры парафіях такія рухі, як "Маці ў малітве", "Жывы Ружанец", "Абарона жыцця", "Дапамога самотным маці". Праводзяцца Сужэнскія сустрэчы, адбываецца катэхізацыя дзяцей, моладзі і дарослых, існуюць Біблійныя групы. Таксама ёсць такая практыка, як дом "Надзеі" для бедных дзяцей. Адным словам, Каталіцкі Касцёл на гэтай тэрыторыі нясе дапамогу кожнаму, хто яе шукае, і дапамагае людзям пераадольваць іх цяжкія жыццёвыя сітуацыі.

### Бясконцыя прасторы

Цікавай асаблівасцю тут з'яўляецца вялікая адлегласць паміж парафіямі. Ад 60 да 200 км. – гэта яшчэ вельмі "блізкая" адлегласць, але такіх мала. У асноўным лік ідзе на 1000 км. і больш. Па гэтай прычыне такія падзеі, як дыяцэзіяльная сустрэча моладзі ці дарослых свецкіх адбываецца толькі раз на год. Але гэта толькі садзейнічае таму, што падобныя спатканні перажываюцца з вялікай радасцю і больш глыбока. У такія моманты чалавек разумее, што еднасці ў Хрысце не могуць перашкодзіць нават тысячы кіламетраў.

### Міжрэлігійныя адносіны

Зусім нядаўна ў Іркуцку адбылася вельмі нетыповая падзея, годная ўвагі – выстава ў музеі пад назвай "Шлях да святыні", якая прадстаўляла пяць галоўных рэлігій горада: каталіцкую, праваслаўную, яўрэйскую, мусульманскую і будысцкую. А. Уладзімір Сек SVD, пробашч катэдры ў Іркуцку, пракаментаваў: "Гэта крок наперад. Крок да жыцця ў сяброўстве, супакоі і ўзаемнай пашане адно да аднаго. Мы, прадстаўнікі розных канфесій, рэгулярна сустракаемся і размаўляем на канкрэтныя тэмы. Гэта выстава паказвае людзям, што мы не канкурэнты. Для кожнага з нас галоўнае дапамагчы чалавеку знайсці свой шлях да Бога".

Сапраўды, кожны святар, які працуе ў Іркуцкай дыяцэзіі, вельмі аддазны паслузе сярод людзей, імкнецца несці Хрыстова Евангелле кожнаму і як мага больш сэрцаў адкрыць на Божае Збаўленне.

### Святарскі досвед працы ў Расіі

Сваім меркаваннем наконт жыцця Каталіцкага Касцёла ў Расіі падзяліўся а. Тамаш Клявонь SVD, які ўжо 15 гадоў працуе на яе тэрыторыі, а да гэтага шэсць гадоў працаваў у Беларусі. За яго плячыма – душпастырская праца ў Маскве, Цверы, Волагдзе, Благавешчанску, Тамбове і Іркуцку. Айцец Тамаш кажа, што "Каталіцкі Касцёл у Расіі пастаянна развіваецца. Ужо шмат змянілася, будуюцца новыя святыні, адкрываюцца новыя парафіі. Зараз шмат людзей шукае Бога, і ім трэба дапамагчы. Многія памятаюць, як у паслякамуністычныя часы адразу назіраўся вялікі наплыў вернікаў. Яны лічылі сябе вернікамі паводле традыцыі, зараз шмат каго з іх няма, бо вера – гэта не толькі традыцыя, але і жыццё ў адзінстве з Богам. На цяперашні момант людзей у касцёле няшмат, але яны свядома ідуць у святыню, бо гэтага патрабуе іхняя душа. Галоўнай задачай тут з'яўляецца абвяшчэнне Евангелля, каб дапамагчы чалавеку знайсці свой шлях да Хрыста. Вельмі цешыць, што змяняюцца адносіны паміж канфесіямі, ёсць імкненне да дыялогу і паразумення. Гэта вельмі заўважальная змена. І за ўсё гэта вялікая ўдзячнасць Богу!"

### Позірк у будучыню

Пачуўшы такія словы, можна зрабіць вывад, што Каталіцкі Касцёл, які з'яўляецца паўсюдным і яднае вернікаў у адно Хрыстова Цела, не мае межаў і перашкодаў. Езус і сёння праз сваіх паслядоўнікаў збірае "загубленых авечак у адзінстатак"іахоўвае іх ад розных пагрозаў, якімі перапоўнены сучасны свет.

Напэўна, павінна прайсці яшчэ шмат часу, каб людскія сэрцы былі поўнасцюпазбаўленыя атэістычнай хваробы. Але, гледзячы на адданую працу святароў, законных братоў і сясцёр у Сібіры, можна сказаць з упэўненасцю, што Касцёл тут жыве і будзе жыць пад магутнай Божай абаронай.

**с. Марына Брылёнак, Іркуцк**



Іркуцкая дыяцэзія св. Юзафа займае палову Расіі.

**Наша пошта**

# Уражанні з лета

***Добры дзень, паважаная рэдакцыя!***

*З задавальненнем заўжды чытаю вашу газету і хачу выказаць падзяку за цікавыя і пазнавальныя артыкулы.*

*Сённяхачупадзяліцца з вамі сваімі пачуццямі. Я вучуся ў 8 класе гімназіі, многа чытаю і вельмі люблю вандраваць. У гэтым годзе мы разам з ксяндзамі Андрэем Бульчакам і Аляксандрам Бараном і дзецьмі з Чашніцкага і Новалукомльскага касцёлаў у час летняга адпачынку пабывалі адразу ў трох краінах: у Польшчы, Чэхіі і Славакіі.*

*Дванаццаць дзён мы пазнавалі культуру і звычаі гэтых краін, наведвалі самыя знакамітыя санктуарыі, музеі і палацы. Кожны дзень быў насычаны экскурсіямі, вандроўкамі, гульнямі і заняткамі па рэлігіі. Ужо ў першы дзень у горадзе Чанстахова, духоўнай сталіцы Польшчы, мы пабывалі ў святым месцы пад назвай Ясна Гура. Гэта непаўторны комплекс святыняў і манастыра паўлінаў XIV стагоддзя, дзе знаходзіцца цудатворная ікона Божай Маці Чанстахоўскай, якую таксама называюць Чорнай Мадоннай.*

*Кожны год пакланіцца святому абразу і выказаць свае просьбы прыязджае каля чатырох мільёнаў чалавек з усяго свету. Мы не былі выключэннем. Таксама мы пабывалі ў былой сталіцы Польшчы – Кракаве, адным з самых прыгожых гарадоў Еўропы, дзе ўбачылі архітэктурныя помнікі і, канешне, знакаміты Каралеўскі замак на Вавеле.*

*Назаўсёды ў маёй памяці застанецца ўспамін аб прыгажосці гор Прыкарпацця! Асабліва момант, калі мы падымаліся ўверх па гары. Было цяжка, але кожную хвіліну адчувалася падтрымка сяброў. Дзякуючы гэтаму мы змаглі ўбачыць сімвал Сакаліцы – сасну, якая расце проста на скале.*

*Найбольш спадабалася малым быць у парку забаў Юрскага перыяду, дзе можна было трапіць у эпоху пражывання дыназаўраў і ўбачыць дагістарычных жывёл у сапраўдную велічыню. А нам, старэйшым хлопчыкам і дзяўчынкам, было карысна пабываць у горадзе Асвенціме. Менавіта там добра вывучаць гісторыю краін, удзельніц Другой сусветнай вайны. Гледзячы на канцлагер, кожны з нас змог ацаніць шчасце жыць у незалежнай краіне і ведаць пра жахі вайны толькі са старонак падручніка па гісторыі.*

*Кожны са мной пагодзіцца, што лета – незабыўная пара. Менавіта такім яно і стала для нас, юных вандроўнікаў Чашніччыны. А за такую магчымасць хочацца выказаць падзяку нашым ксяндзам і пажадаць ім здароўя, шчасця, радасці і любові.*

***Ягор Авіжа**, 13 гадоў*



# Так нараджаюцца фрэскі...



**У Віцебскай дыяцэзіі касцёлы ў Полацку, Ахрэмаўцах і Расонах аздоблены фрэскамі мастака Уладзіміра Кандрусевіча. Пра сакральную эстэтыку і майстэрства сценапісу чытайце ў гэтым інтэрв'ю.**

**– Спадар Уладзімір, адкуль у Вас зацікаўленасць фрэскамі?**

– Я вучыўся ў Акадэміі мастацтваў. Вывучэнне сценапісу было часткай праграмы. Маёй дыпломнай працай было таксама выкананне фрэсак у полацкім касцёле. Потым удалося выйграць грант і трапіць на стажыроўку ў Фларэнцыю, каб там удасканаліць свае веды менавіта ў сценапісе.

**– А колькі часу трэба, каб намаляваць фрэску?**

– Цяжка адназначна сказаць. Неабходна ўлічыць час падрыхтоўкі, калі робіцца сам эскіз. У падрыхтоўцы да выканання фрэскі схаваны і адказ, чаму мне падабаецца займацца фрэскамі, і маё мастацкае крэда. Сама тэхніка вымагае пільнай падрыхтоўкі і вельмі хуткага выканання. Спачатку малюецца так званы кардон – эскіз у натуральную велічыню на паперы. Пасля з яго здымаецца калька. І далей малюнак пераносіцца на сцяну. Закладваецца кавалак тынкоўкі, які мастак паспее зрабіць за адзін дзень. Гэты кавалак называецца "джарната" – ад італьянскага "giorno", што значыць "дзень". Праваслаўныя сценапісцы называюць гэта "днёўкамі". Пасля перанясення малюнка на сцяну мастак працуе фарбамі, выкарыстоўваючы пэндзаль.

**– А як жа быць са швамі, што паўстаюць паміж джарнатамі?**

– А гэта і ёсць асаблівасць сапраўднай фрэскі – малюнка, які паўстае на сырой тынкоўцы. Нават у альбомах мастакоў Адраджэння – таго ж Мікеланджэла – побач з рэпрадукцыямі падаецца маленькая схемка, каб паказаць, якімі кавалкамі ён працаваў дзень за днём. Візуальна гэта можна заўважыць на фрэсцы.

**– Як уплывае ацяпленне на фрэскі? Ці ёсць тут нейкія асаблівасці?**

– Калі ў касцёле сапраўдныя фрэскі, то яны не баяцца ніякіх маразоў і перападаў тэмпературы. Тэхніка фрэсак даказала, што яна даўгатрывалая. Фарбы становяцца часткай тынкоўкі. Таму мы сёння можам захапляцца творамі мастацтва, якія паўсталі 500 гадоў таму. Чаго нельга сказаць пра акрылавыя фарбы, якія былі вынайдзеныя адносна нядаўна. Яны яшчэ не прайшлі праверкі часам. Адзінае, чаго трэба асцерагацца, – гэта каб фрэскі не залівала вадой. Бо калі раптам фрэска прамерзне, то лёд можа панішчыць тынкоўку, а разам з ёй і фрэску. Калі мы ўжо загаварылі пра сцены, то варта ўзгадаць, што алейныя фарбы робяць шкоду для сценаў у касцёле. Яны не даюць ім дыхаць, што можа прывесці да назапашвання кандэнсату на сцяне, а затым і з'яўлення цвілі... А наогул, я лічу, чаго найбольш баіцца фрэска – гэта чалавечага глупства.

**– Вы маеце на ўвазе, каб ніхто не лез папраўляць фрэскі, рэстаўраваць іх, не маючы адпаведнай кваліфікацыі?**

– Не толькі. Давялося чуць, як у адным з беларускіх храмаў прыбіральшчыца заўважыла, што фрэскі становяцца больш выразнымі, калі іх змачыць вадой. Таму яна кожную раніцу праціpáла іх анучай з самых найлепшых намераў. Вядома, карысці для фрэскі тут не было ніякай, а наадварот.

**– Скажыце, чаго не хапае сёння беларускім касцёлам у плане эстэтыкі?**

– Думаю, ёсць у нас праблема з пераемнасцю. Гэта значыць, калі кожны новы гаспадар хоча прыўнесці нешта сваё ва ўнутранае ўбранства святыні, не звяртаючы ўвагі на тое, што ўжо зроблена ў касцёле. Атрымліваецца, што няма нейкай агульнай канцэпцыі. Напрыклад, вернікі найбольш дбаюць пра бакавы алтар. Робяць яго стракатым, яскравым, выразным. А як ён упісваецца ў агульны хор – не задумваюцца.

**– А як змагацца з кічам* у беларускіх касцёлах? Можа, прычына тут у недахопе фінансаў?**

– Думаю, што прычына тут не ў грошах. Трэба давяраць справу прафесіяналу, каб параіў нешта. Даводзілася бачыць, як у рамонт укідваюцца вялікія грошы, а без толку. Мне здаецца, што ўжо наспела ідэя стварэння нейкая мастацкай камісіі, каторая б зацвярджала праекты рамонтаў у касцёлах.

**– Можаце сказаць, чаго не павінна быць у святыні?**

– Сайдынгу адназначна не павінна быць. Але справа ў ментальнасці. Прыкра, калі ў будынку бачная задума архітэктара, а падчас рамонту паўстаюць нейкія штучныя шырмы. Хочацца шчырасці, сапраўднасці. Не зусім разумею, калі робяць прыгожую гранітную падлогу і потым засцілаюць яе дыванамі.

**– Чаму, на Вашу думку, варта распісваць касцёлы сёння?**

– Ведаеце, можа быць і нямецкі стыль у касцёле, дзе больш белых сцен. Ён больш рацыянальны. У Фларэнцыі, напрыклад, калі заходзіш у святыню, проста стамляешся ад мастацтва. Там касцёлы ім проста перанасычаныя. Але ў нас, у Беларусі, сёння на людзей уплывае шмат бруднай візуальнай інфармацыі. Таму мне здаецца, што важна, каб чалавек, прыйшоўшы ў касцёл, мог убачыць нешта добрае і прыгожае. Гэта датычыць пераважна дзетак, на якіх з маленства моцна ўплываюць карцінкі. Вядома, фрэскі не могуць быць заменай казанням ці катэхезам, але, думаю, яны добра дапамагаюць у выхаванні. Памятаю гутарку з адным нямецкім святаром, які пажартаваў, што сённяшні чалавек моцна падобны да чалавека з Сярэднявечча. У Сярэднявеччы малюнкі дапамагалі непісьменнаму чалавеку спасцігнуць ісціны веры. А сёння чалавек, хоць і ўмее чытаць, але не хоча гэтага рабіць, або не мае часу. Таму ён усё больш патрабуе відэаінфармацыі. І фрэскі тут з'яўляюцца вялікай дапамогай.

**– Ці ёсць у Вас вучні?**

– Я па шчырасці прызнаюся, што ў мяне самога больш пытанняў, чым адказаў. Я ўвесь час у пошуку. А вучыць таксама трэба ўмець. Бо справа нават не ў перадачы тэхнікі. Справа ў творчасці. Таму пакуль вучняў няма.

**– Ведаю, што Вы выконваеце працы і па прыватных замовах. Якая праца Вам больш падабаецца: для касцёлаў ці для прыватных асоб?**

– Адназначана больш люблю працаваць у касцёлах, таму што гэтая праца для людзей. У прыватным доме лёс фрэскі залежыць ад жаданняў гаспадара. Задумаецца яму зрабіць рамонт і ўсё змяніць – і фрэска, над якой столькі працаваў, можа знікнуць. У парафіях жа фрэскі не знікнуць, і іх змогуць пабачыць усе, хто захоча, а ў прыватным дамах – на жаль, толькі абмежаванае кола людзей.

**– Ці бывае ў Вас дзень без мастацтва?**

– Вядома, бывае. У мяне ёсць сям'я. Нядаўна быў дзень народзінаў сына. Мы ўвесь дзень з ім гулялі ў піратаў.

**– Наколькі Вы заняты? Ці доўга трэба будзе чакаць пробашчу, які захоча вас запрасіць на працу ў свой касцёл?**

– Ведаеце, праца ў касцёлах сезонная. Рэдка дзе бываюць такія ўмовы, што можна працаваць над фрэскай і зімой. Аднак, як я ўжо сказаў, фрэска – гэта агромністая папярэдняя праца ў майстэрні па стварэнні эскіза. Я максімальна выкарыстоўваю час, таму доўга чакаць святарам не даводзіцца.

**– Жадаю Вам шмат замоў на працу ў беларускіх касцёлах і плённага творчага пошуку.**

– Дзякуй.

***Гутарыў кс. Віктар Місевіч***

*Кіч – (ням.: Kitsch) – таннасць, безгустоўшчына.




Фрэска ў касцёле ў Расонах.

## Даведка

Уладзімір Кандрусевіч (1976 г.)
Нарадзіўся ў Мінску.
1989-1993 – вучыўся ў Беларускім ліцэі мастацтваў імя Ахрэмчыка.
1993-1999 – навучаўся ў Беларускай акадэміі мастацтваў на аддзяленні манументальнага жывапісу.
1996 – стажыраваўся ў Акадэміі Мастацтваў Мюнстэра (Германія).
1999 – уступіў у Беларускі саюз мастакоў.
2001 – стажыраваўся ў рэстаўрацыйных майстэрнях Фларэнцыі (Італія).
2005-2009 – працаваў у акадэмічных майстэрнях М. А. Савіцкага.

## Ісціна мая – нябёсы....

*Як люблю я ў нябёсы зазірнуць,*
*Адчуць любоў іх, ласку і пяшчоту.*
*Яны мне мілату сваю даюць,*
*Змываюць крыўды, роспач і турботу.*

*Нябёсы сэрца і душу маю натхняюць,*
*Напаўняюць чысцінёй яе, святлом.*
*І чароўнай сілай адараюць,*
*Аберагаючы сваім святым крылом.*

*Іх светач адчуваю я ўсюды,*
*І голас мілы чуцен мне заўжды.*
*Бо гэта Божа – Ён стварае цуды,*
*Ён Валадар наш Вечны і Святы!*

*Юлія Кісялевіч,*
*мястэчка Войстам*
*(Гродзенская вобл.)*

# ШТО РАБІЦЬ, КАЛІ КСЁНДЗ – НЕ ІДЭАЛ?

**“Што рабіць, калі не падабаецца ксёндз?” На гэтае пытанне адкажуць чытачы “Каталіцкага Весніка”.**

*Падрыхтавала Ірына Грэйць*



**Раман Гапцар:**

– Па-першае, ксёндз – такі самы чалавек, як і ўсе мы, прыйшоў ён да нас з такой самай сям'і, з якой паходзім і мы. Па-другое, ніхто на свеце не з'яўляецца ідэалам, кожны мае свае моцныя і слабыя рысы. Калі табе не падабаецца ксёндз, трэба звярнуць увагу на сябе, на свае недахопы. Трэба падумаць, як цяжка самому ксяндзу таму, што на яго глядзіць вельмі шмат людзей, якія гатовы яго крытыкаваць. На нас жа глядзяць толькі нашыя блізкія, што стараюцца не звязаць на нашы адмоўныя рысы або гавораць пра іх вельмі мякка. У тым выпадку, калі справа сапраўды сур'ёзная, трэба паразмаўляць з ксяндзом сам-насам па пытаннях, якія вас хвалююць. Здаецца, пасля такой размовы ўсё можа высветліцца і ксёндз пачне працаваць над сабой. Калі ж размова не атрымалася, то найлепшым выйсцем будзе параіцца з якой-небудзь кампетэнтнай асобай, которая дапаможа высветліць непаразуменні.



**Вольга Качалка:**

– Нам важна зразумець і цвёрда ўсвядоміць тое, што прыходзім мы ў касцёл не да святара, а да Бога. Святар мае ўладу ад Бога здзяйсняць Эўхарыстыю, спавядаць, але дзейнічае ў гэтых выпадках не сам ксёндз, а Бог праз яго. Таму з гэтага вынікае, што хрысціяніна ў ідэале не павінна вельмі цікавіць асоба ксяндза, асабліва яго чалавечыя заганы. Але калі ўсё ж нейкі ксёндз здаецца нам не ідэальным, то варта адразу задумацца не пра святара, а пра сябе. А я ідэальны? А чалавек, хоць ён і святар, наогул бывае ідэальным? Варта падумаць яшчэ і пра тое, што чалавеку заўсёды можа дапамагчы нашая малітва, таму самае лепшае, што мы можам зрабіць, – гэта памаліцца за ксяндза: “Госпадзе, Ты ведаеш сэрца свайго слугі, Ты ведаеш, што яму патрэбна, дык няхай станецца паводле Тваёй волі...”

Што ж рабіць, калі мне ксёндз не падабаецца? Такое бывае, і вельмі часта. Прызнаюся, што і са мною такое здараецца. Я асабіста нічога ў падобным выпадку і не раблю. Прыходжу ў касцёл я да Бога, таму мая прыязнасць ці непрыязнасць да святара абсалютна нічога не значыць. Хоць з асабістага вопыту я заўважыла, што часта праз такога ксяндза ў казанні ці пры споведзі Бог прамаўляе да мяне выключныя і вельмі патрэбныя словы. І ўсё ж мая непрыязнасць да якогасьці святара – гэта праблема не святара, а мая.



**Ірына Шпак:**

– Калі я чую падобныя пытанні, то пачынаю сама задаваць шмат сустрэчных. Няўжо, прыходзячы ў касцёл, сустракаючыся з Езусам у Сакраманце, мы можам глядзець куды-небудзь яшчэ? На святара? Святар не галоўны, толькі Езус наш Пастыр. Ён заўсёды ёсць там, жывы ў хлебе і віне. Няўжо мы не верым, што наш Гасподзь Езус Усемагутны не зможа нам адкрыць штосьці праз святара, каторы, як мы лічым, “не вельмі”. Будзем дзякаваць Богу за тое, што паставіў і ставіць далей у нашым жыцці такіх мужоў сваіх, якія прысвяцілі сваё жыццё служэнню Езусу, якіх Гасподзь адарыў Духам Святым, праз якіх Ён дзейнічае. Памятаю, як нехта сведчыў, што, калі ён першы раз за доўгі час змог прыняць Камунію, яму хацелася расцалаваць рукі святара за тое, што ён трымае цела Госпада ў сваіх руках. Вельмі ўразіў такі прыклад, бо той чалавек глядзеў на Хрыста ў гэты час, а не на святара! І яму было без розніцы, які ў ксяндза там характар, ці праводзіць ён занятки з моладдзю, доўгія ці кароткія казанні кажа, як глядзіць, як ходзіць і г.д... Нават калі нам не падабаецца святар, ці мы думаем, што ён дрэнна спраўляецца з чымсьці, давайце спытаем у сябе: што мы не ведаем яго сэрца? Толькі Бог можа ведаць і бачыць сэрцы. А як мы можам меркаваць пра тое, хто добры, а хто дрэнны? Мы можам толькі маліцца... Давярайце Богу такія сітуацыі, гэта Яго дзіця, Ён ведае яго, Ён адзіны, хто можа змяніць яго.



**Святлана Сташко:**

– Што рабіць, калі ксёндз не ідэал? Давайце разгледзім гэта з двух бакоў. Усе мы звычайныя грэшныя людзі. Ксяндзы ў тым ліку. Як і кожны чалавек, яны слабыя, маюць свае недахопы. І як кожны з нас, ксёндз імкнецца да святасці, па дарозе да якой сустракаюцца розныя цяжкасці. Ксёндз – звычайны чалавек і ідэалам быць не можа. З іншага боку, ксяндза на служэнне прызначыў сам Езус. Нам, людзям, трэба задумацца над сваімі грахамі, тады на абгаворванне ксяндзоў не будзе часу.



**Павел Купцоў:**

– Мне здаецца, людзі часта забываюць, што святар – чалавек. У яго, як і ў кожнага з нас, ёсць свае недахопы. Д'ябал спакушае святароў яшчэ больш, чым нас, вернікаў. Святар таксама не заўсёды можа справіцца са спакушэннем. І менавіта яму найбольш патрэбная наша дапамога – малітва. Мы павінны маліцца за нашых айцоў, маліцца за тое, каб яны як мага лепш выконвалі сваё пакліканне. Давайце пастараемся не абгаворваць нашых святароў!

## Паважаны ксёндз Віктар Місевіч!

*З нагоды 35-годдзя складаем шчырыя пажаданні: няхай клапатлівыя рукі Езуса ахінуць у цішыні тваё жыццё, няхай Хрыстова сэрца кожны шэпт тваёй малітвы пачуе, выслухае і асвеціць кожны момант твайго жыцця. Няхай Пан Бог аберагае ад зла, хваробы і журбы і ласкі шчодра пасылае сёння, заўтра і заўжды. Няхай Панна Марыя Будслаўская апякуецца табой.*

***З пажаданнямі – тата, мама і цёця з сям'ёй***

## Паважаны ксёндз Анджэй Возьняк!

*Сардэчна віншуем Вас з днём Імянінаў. Жадаем Вам плёну ў Вашай нястомнай працы па адраджэнні касцёла і евангелізацыі нашай парафіі. Няхай Божая ласка ніколі не пакідае Вас, а Маці Божая заўсёды атуляе сваёй апекай. Няхай заўсёды будзе побач святы Апостал Андрэй!*

***Па даручэнні парафіянаў, Мар'ян Антонавіч Бурмбліс (Паставы)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*У нашага паважанага святара Алега Півавара 6 лістапада Дзень нараджэння. Кс. Алег працуе ў Лёзне ўжо 9-ы год. Гэта вельмі добразычлівы, добрасумленны і шчыры чалавек, якога мы ні на каго ў свеце не памянялі б. Дзякуючы яго намаганням, працы, уменню і цярплівасці, залатым рукам мы маем такі ўтульны і прыгожы Божы храм, пакуль яшчэ трошку недабудаваны. Сюды мы можам прыйсці са сваім болем і смуткам, радасцю і шчасцем.*

*Нізка кланяемся і шчыра дзякуем пробашчу мы, яго парафіяне, за клопат, ласку і дабрыню, за тое, што вучыць нас любіць Бога і бліжняга, за пабудову касцёла.*

*Шаноўны кс. Алег! З нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найсардэчнейшых пажаданняў: няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі і ўзмацняе ў выкананні нялёгкай святарскай паслугі, а св. Заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам. Жадаем, каб здароўе ніколі не падводзіла, дарогі былі шчаслівымі, а побач заўжды стаяў Анёл-ахоўнік. Няхай усмешка заўсёды гасіць на Вашым твары, мары здзяйсняюцца, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень, які будзе асвечаны любоўю і міласэрнасцю, супакоем, шчасцем, верай, надзеяй. Езус няхай заўсёды будзе Вашым сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца. Няхай праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён.*

*Шчасці, Божа, бацькам за сына святара.*

***Данута Голубева, ад імя ўсіх вернікаў парафіі Св. А. Піа ў г.п. Лёзна***

## Паважаны ксёндз-пробашч Раман!

*Дазвольце мне ад імя ўсіх прысутных на вельмі ўрачыстым, прысвечаным Найсвяцейшаму Імю Марыі, што адбыўся 12 верасня, выказаць самыя шчырыя словы ўдзячнасці за яго правядзенне.*

*У цяжкія хвіліны жыцця мы ў першую чаргу звяртаемся да Маці Божай Марыі, просім у Яе дапамогі і заступніцтва.*

*Дзякуем Вам за тое, што фэст прайшоў на вельмі высокім духоўным узроўні. Да глыбіні душы ўзрушыла казанне кс. Аляксандра Амяльчэні. Дзякуем усім святарам і сястры Марыяне за ўдзел у правядзенні свята.*

*А як жа спадабаліся выступленні тэатра эстраднай песні “Маленькая фея”, вакальнага ансамбля “Родныя напевы”, узорнага цыркавога калектыву “Мара”, эстраднага дуэта “Фэнш”, каталіцкага гурта “Рэха”, фаер-шоу і салют, якія адбыўся ўдзень і вечарам! Дзякуем за смачныя пачастункі, прыгатаваныя для прысутных на свяце.*

*Нізкі паклон пробашчу Раману Мурзічу за добрыя словы і ўвагу да кожнага, за ўсмешку, за тое, што мы ўсе нібыта апынуліся ў чароўнай казцы. Ва ўсіх людзей быў душэўны супакой, радасць на сэрцы, узнёсласць, нікому не хацелася ісці або ехаць дадому.*

*Дай Бог мець нам у нашай любай Беларусі такіх святароў, як ксёндз Раман!*

*Усемагутны хай Вам дапамажа*

*У малітве і працы трываць!*
*І крыніцу жыцця – слова Божае –*
*Годна свету ўсяму абвяшчаць!*

***Ад імя і па даручэнні вернікаў Параф'янаўскай і Валкалацкай парафій (Докшыцкі раён) – А. Бабарыка***

# “Лібералізм” Папы



**Наш час стаў эпохай, калі паняцце ісціны чалавекам успрымаецца як адноснае і суб’ектыўнае. Тыя праўды, якія калісьці здаваліся самі сабою зразумелымі, сёння не выглядаюць такімі адназначнымі. Касцёл Хрыста абвяшчае ўніверсальнасць маральнай і рэлігійнай ісціны, але ў гэтай сітуацыі знаходзіцца ў стане вялікай барацьбы за яе адстойванне. Тэмы абортаў, эўтаназіі, сямейнай вернасці, чысціні, традыцыйнай сям’і і г. д. прыцягваюць звяртаць увагу на сябе як шараговых людзей, так і прадстаўнікоў розных інстытутаў, пачынаючы ад грамадскіх арганізацый і заканчваючы органамі дзяржаўнай улады.**

■ **а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

У сярэдзіне верасня ў друку з’явілася інтэрв’ю Папы Францішка, якое Пантыфік даў рэдактару італьянскага езуіцкага часопіса “La Civiltà Cattolica”. Адказваючы на пытанні, звязаныя з асабістым шляхам Марыё Бергольё – з яго духоўным пакліканнем і служэннем, – былі закранутыя таксама і згаданыя вышэй праблемы сучаснасці. Словы Папы сваёй неардынарнасцю чарговы раз выклікалі рэзананс сярод прадстаўнікоў Касцёла, а таксама сярод секулярных колаў.

### Што стаіць за “лібералізмам” Папы

У свядомасці многіх людзей стан Касцёла ўспрымаецца як крызіс і заняпад, а ад Папы чакаюць пэўнага цуду, чароўнага абнаўлення.

**Словы Папы сваёй неардынарнасцю чарговы раз выклікалі рэзананс сярод прадстаўнікоў Касцёла**

Але задумаемся, дзе знаходзіцца корань праблемы? У грэшных людзях, якія адвярнуліся ад Бога, у касцельнай іерархіі, якая не жадае ісці ў нагу з часам, ці, можа, у самім вучэнні Хрыста і Яго Касцёла, якое аджыло свой век і павінна саступіць месца новай ідэалогіі? Выказваючы свой погляд на стан Касцёла, Папа Францішак адзначыў у інтэрв’ю: «Я мару пра Касцёл, які будзе Маці і Пастырам. Духавенства павінна быць міласэрным, павінна браць адказнасць за людзей і суправаджаць іх, як добры самаранін. Гэта чыстае Евангелле. Бог ёсць большы за грэх»... «Касцёл часам замыкаецца на малых рэчах, на малазначных правілах. Найважнейшая рэч – гэта абвяшчаць: Езус Хрыстус збавіў цябе. І служыцелі Касцёла павінны быць служыцелямі міласэрнасці (...) У пастырскім служэнні мы павінны суправаджаць людзей, загойваць іх раны».

Святы Айцец указвае і падкрэслівае: крызіс палягае ў тым, што мы, людзі Касцёла, імкнёмся падмяніць сутнасць Хрыстовага вучэння, зводзячы яго да барацьбы СУПРАЦЬ: супраць абортаў, супраць аднаполых шлюбаў, супраць іншых заганаў грамадства замест таго, каб усю энергію скіроўваць на барацьбу ЗА: за хрысціянскую сям’ю, за чысціню адносін, за адказнасць, за праўду. Безумоўна, нашмат прасцей крытыкаваць і асуджаць чужыя грахі, але куды важней святасць сярод граху асабістым прыкладам паводле запаведзі Хрыста: “Хай свеціць святло ваша на віду ў людзей, каб яны бачылі вашыя добрыя ўчынкі ды хвалілі Айца вашага, Які ў небе” (Мц. 5, 16). «Мы не можам усю ўвагу звяртаць на праблемы абортаў, аднаполых шлюбаў і кантрацэпцыі. Гэта немагчыма (...) Калі мы гаворым пра такія праблемы, мы павінны гаварыць пра іх у кантэксце. Вучэнне Касцёла ў гэтых пытаннях выразнае і зразумелае, і я – сын Касцёла, але няма неабходнасці гаварыць пра гэта пастаянна», – зазначае ў сваім інтэрв’ю Папа.

### Людзі патрабуюць Хрыста

Прырода чалавека сёння нічым не лепшая за тую, якую мелі людзі дзве тысячы гадоў назад. Як і тады, сёння яна, нашая слабая, схільная да граху сутнасць, патрабуе Божай ласкі, патрабуе

**Нашмат прасцей крытыкаваць і асуджаць чужыя грахі, але куды важней святасць сярод граху асабістым прыкладам паводле запаведзі Хрыста**

сілы Езуса Хрыста, сілы, якую наш Госпад абяцаў удзяляць кожнаму, хто пра яе папросіць. Сёння Хрыстос прысутны ў свеце праз Свой Касцёл, і ад Касцёла чакаецца такога стаўлення да грэшнікаў, якое выяўляў наш Збаўца. Разважаючы над пытаннем аднаполых шлюбаў, Папа Францішак звяртае ўвагу: “Калі Бог глядзіць на гомасексуаліста, Ён глядзіць на існаванне яго асобы з любоўю або адкідае і асуджае яго? Мы заўсёды павінны зважаць на асобу. Тут мы ўваходзім у таямніцу чалавечага быцця». Езус, Які падчас Свайго зямнога жыцця прымаў грэшнікаў, прабачаў блудніцам, падтрымліваў прыгнечаных Сваімі грахамі, сёння таксама застаецца сярод нас і жадае вуснамі Свайго Касцёла запрасіць кожнага грэшніка: “Навярнайцеся, бо наблізілася Валадарства Нябеснае” (Мц. 4, 17). Гэтае запрашэнне павінна паходзіць з глыбіні хрысціянскай любові і міласэрнасці, але ніяк не асуджэння чалавека і адкідання яго асобы.

Менавіта таму Папа запрашае нас, хрысціянаў, пачаць сведчыць непасрэдна Божую праўду – праўду пра Божае Валадарства і прабачэнне, пакінуўшы празмерную руплівасць у змаганні з чужымі заганамі. Хрыстос не даказваў зло граху і нікога не пераконваў, Ён паказваў праўдзівасць Божага шляху і Сваім прыкладам вёў людзей за Сабой. Гэтага чакаюць ад нас і сёння. Гэтага чакае ад хрысціянаў Бог, гэтага патрабуе таксама грэшны свет – сведчання, а не асуджэння.

# Як не распесціць дзяцей?

**Адным з найбольш складаных пытанняў выхавання дзяцей з'яўляецца праблема выбару паміж любоўю і абмежаваннямі. Як сказаць дзіцяці такія непрыемныя словы, як «не» і «нельга»? Чаму некаторыя бацькі іх пазбягаюць, і ці слушна яны робяць? Да чаго прыводзіць блытаніна паміж любоўю і ўсёдазволенасцю? Чаму, наогул, некаторыя бацькі не могуць ні ў чым адмовіць сваім дзецям?**

**Сёння пашукаем адказы на гэтыя пытанні.**

■ **Наталля Станкевіч**, *псіхолаг*

### Ці карысныя для дзяцей забароны?

Сёння мы часта чуем аб «рэвалюцыйных» методыках выхавання, заснаваных, у тым ліку, на адмове ад забаронаў. Лічыцца, напрыклад, што дзіця само ведае, што для яго лепш, і таму забароны выклікаюць толькі залішні стрэс, не прыносячы ніякай карысці.

Насамрэч, забароны адыгрываюць важную ролю ў фарміраванні псіхічнай прасторы дзіцяці. Яны падкрэсліваюць наяўнасць межаў і, такім чынам, робяць жыццё дзіцяці больш упарадкаваным і больш прадказальным. Без іх дзіця знаходзіцца быццам у беспаветранай прасторы, не мае ніякіх арыенціраў адносна таго, што добра, што дрэнна, што карысна, а што шкодна і г.д. Забароны ж ператвараюць гэтую «касмічную прастору» ва «ўтульны пакой», дзе ёсць столь, падлога, сцены, вокны, дзверы... І ёсць простыя правілы, па якіх жывуць у гэтым пакоі: хадзіць па падлозе, а ніяк не па стале і не па сценах, выйсці можна праз дзверы, але не праз акно і да т.п. Гэта стварае пачуццё бяспекі: дзіця ведае, што на сцены можна абаперціся і яны не раз'едуцца ўбок, у падлозе няма дзірак, столь не зваліцца на галаву і г.д.

### Якімі павінны быць забароны?

Трэба адзначыць, што методыкі «бясстрэсавага выхавання» не пазбаўлены здаровага сэнсу. Часам здараецца, што дзецям забараняецца літаральна ўсё, і гэта не дае ім магчымасці нармальна развівацца. Каб пазбегнуць такіх крайнасцяў, трэба памятаць некалькі «залатых правілаў забароны».

1. Забароны робяцца дзеля бяспекі дзіцяці. Напрыклад, мы не дазваляем немаўлятку гуляць з вострымі прадметамі ці кранаць разеткі.

2. Другая мэта забаронаў – дапамагчы дзіцяці пабудаваць добрыя адносіны з іншымі людзьмі. Так, напрыклад, нельга біць маму (і іншых людзей), нават калі ты вельмі раззлаваны.

3. Забаронаў не павінна быць шмат, а гэта значыць, яны павінны быць сапраўды неабходнымі.

4. Забароны павінны быць пастаяннымі – яны дзейнічаюць заўсёды і падтрымліваюцца ўсімі членамі сям'і (калі нельга есці цукеркі перад абедам – значыць, ніколі нельга. І з татам нельга, і з бабуляй).

### Якімі НЕ павінны быць забароны?

1. Забароны дзеля забаронаў. Як мы казалі, забароны маюць канкрэтныя мэты: забяспечыць дзіцяці бяспеку і навучыць яго будаваць адносіны з іншымі людзьмі і навакольным светам. Выкарыстоўваць іх проста як «сродак выхавання» нельга.

2. Забароны без тлумачэнняў. «Нельга, таму што я так сказаў!» – гэта прамы шлях да канфліктаў. Нават маленькім дзецям трэба тлумачыць «чаму нельга». Напэўна, нават не адзін раз.

3. Забароны на думкі і пачуцці, на ўласнае меркаванне. «Не смей нават думаць аб гэтым!»; «Як ты можаш на маму злавацца?!»; «Нос не дарос разважаць аб гэтым!».

### Чаму некаторыя бацькі не могуць нічога забараніць дзецям?

Часам мы сустракаем сем'і, дзе галоўнымі з'яўляюцца дзеці. Яны робяць, што хочуць, не чуюць і не разумеюць слова «не», а бездапаможныя бацькі літаральна знаходзяцца ў іх «пад абцасам». На мой погляд, ёсць дзве прычыны, чаму дарослыя не могуць казаць «не».

**Па-першае**, часам бацькі дапускаюць такую памылку: «любоў да дзіцяці – гэта адсутнасць абмежаванняў». Ім падаецца, такім чынам, што калі яны будуць забараняць нешта дзіцяці, гэта будзе азначаць, што яны яго не любяць.



**Па-другое**, дарослыя часам не могуць вытрымаць незадаволенасці, капрызаў і злосці сваіх дзяцей. Сапраўды, забароны ніколі не ўспрымаюцца дзецьмі на «ўра». Забароны спараджаюць капрызы, злосць, абурэнне з боку дзяцей. Ім, відавочна, непрыемна чуць «нельга» і «не». Яны імкнуцца парушаць межы, выпрабоўваюць іх на трываласць. Яны злуюцца на бацькоў, бо дзецям сапраўды падаецца, што, калі бацькі нешта забараняюць, яны іх не любяць. А бацькі, у сваю чаргу, не заўсёды маюць дастаткова душэўных сіл і цярплівасці, каб вытрымаць агрэсію дзіцяці. З гэтага нараджаюцца фразы кшталту «добра, толькі адчапіся!»

Асобная прычына, па якой бацькі не могуць адмаўляць дзецям, – гэта іх уласнае цяжкае дзяцінства. Калі дзіця моцна абмяжоўвалі, пазбаўляючы нават неабходнага – у матэрыяльным плане, то, ужо будучы дарослымі, такія людзі пачынаюць выхоўваць сваіх уласных дзяцей метадам «ад супрацiўнага»: мне гэта забаранялі – значыць, я буду дазваляць. А калі забаранялі літаральна ўсё, значыць, я ўсё дазволю.

Аднак вельмі важна не блытаць сябе і сваё дзіця. Ваш боль – гэта Ваш боль, а не боль вашага дзіцяці. І тыя забароны, што вы будзеце рабіць, – гэта не тое самае, што адбывалася з вамі. І рэакцыя дзіцяці на забароны будзе свая, магчыма, лягчэйшая, чым ваша некалі.

Такім чынам, здаровыя абмежаванні, накіраваныя на бяспеку дзіцяці, робяць яго жыццё больш упарадкаваным, прадказальным і простым. У спалучэнні з любоўю яны развіваюць дзіця, дапамагаюць яму сталець, абараняюць яго. Хоць часам няпростыя, яны з'яўляюцца неад'емнай часткай любові, пасланнем ад бацькоў да дзіцяці, якое кажа: «Мне не ўсё роўна, што з табою адбываецца. Я клапачуся пра цябе, бо вельмі моцна люблю цябе». Ці ж не гэта, дарэчы, хоча сказаць нам Бог праз Свае забароны – Дзесяць Запаведзяў?..

# Святло вечнае няхай ім свеціць

**Памяць. Гэта адрознівае чалавека ад усяго жывога. Памяць і ўдзячнасць за дабро…**
**Наш абавязак памятаць і маліцца за сваіх родных і за тых, за каго ніхто не моліцца, хто ў час выпрабаванняў і ваенных ліхалецтваў аддаў сваё жыццё за нас, за нашу Айчыну.**

■ **Алена Сакалоўская**, *Лявонпаль*

### Руплівыя душпастыры

Шануем у глыбокай памяці памерлых святароў і духавенства, якія служылі ў нашай парафіі, краіне, нас хрысцілі, шлюбавалі, вялі нас і нашых дзяцей да Госпада Бога. У гэтыя дні ў роздуме і малітве хочам стаць на калені і схіліць свае галовы за тых святароў, імёнаў якіх мы нават не памятаем, але якія праз нялёгкі шлях святарскага жыцця служылі Богу ў складаны час, удзяляючы сакраманты і абвяшчаючы Божае слова людзям, даручаным іх апецы. У многіх нашых парафіян старэйшага пакалення жывая памяць пра нашых бласлаўлёных кс. Юрыя Кашыру і кс. Антонія Ляшчэвіча (Друя - Росіца), кс. Лявона Прэйцэра (Лявонпаль - Багданова), кс. Станіслава Баговіча і кс. Анджэя Цікоту (Друя), кс. Станіслава Завістоўскага і кс. Пятра Скакоўскага (Лявонпаль – Мёры - Браслаў), кс. Яна Грабоўскага (Мёры), кс. Баляслава Заёнца (Долта), кс. Пятра Пупіна (Лявонпаль - Рубяжэвічы). У памяці людзей яны засталіся як руплівыя душпастыры, што клапаціліся пра сваіх парафіян і вялі іх да Пана, закладвалі падмурак веры.

### Кс. Антоній Лось

Асабліва мы памятаем кс. Антонія Лось (Долта). У свой час ксёндз-марыянін Антоній Лось заўважыў, што ў вёсцы Павяцце Мёрскага раёна шмат вернікаў і адважна ўзяўся за будаўніцтва касцёла, адкрыццё якога адбылося 1 кастрычніка 2000 г. І калі б ксёндз Антоній Лось не прыняў на сябе складаныя абавязкі будаўніцтва, дык мясцовы даўгабуд да гэтага часу працягваў бы стаяць пад снегам і дажджом. І таму ў сэрцах павятчан вечна будзе жыць светлая, добрая памяць пра незвычайна сціплага, мудрага, шчырага, заўжды аптымістычнага, захопленага будучым Касцёла – кс. Антонія Лася. Яго ахвярная святарская праца і штодзённае жыццё, цалкам аддадзенае Касцёлу і Богу, служаць добрым, вечным прыкладам для людзей. Дзякуючы ксяндзу Антонію на зямлі стала больш яшчэ на адну святыню. І гэта зусім нямала.

### Кс. Уладас Пятрайціс

Крыху больш за год прайшло з дня смерці ксяндза Уладаса Пятрайціса, які на працягу 17 гадоў нёс сваё служэнне ў мёрскім касцёле. Другое свята Усіх Святых ён сустракае на нябёсах.

Мы ўспамінаем памерлага ксяндза Уладаса Пятрайціса як таленавітага пастыра, здольнага арганізатара, неардынарнага чалавека, заўсёды поўнага надзеі і адвагі. Ксёндз Уладас энергічны, добры і чулы да людзей, адданы справе Божай, ён запаліў сэрцы парафіянаў і правёў рамонт касцёла ў Мёрах, аднавіў дзейнасць святыні ў Лявонпалі. Шмат спраў зроблена ім на жыццёвым шляху. Ксёндз Уладас не шкадаваў ні сіл, ні здароўя: шукаў фундатараў, сам працаваў з парафіянамі, а вечарам адпраўляў Святую Імшу. Людзі вельмі яго палюбілі, бо і ён быў зычлівы да людзей, да ўсіх ставіўся з павагаю і клапаціўся, каб каго не пакрыўдзіць словам ці нават позіркам.



А як яго любілі дзеці! Бо ксёндз Уладас ніколі іх не мінаў: заўсёды да кожнага падыдзе, пагладзіць, скажа ласкавае слова. Ксёндз Уладас сваёй любоўю дзяліўся з іншымі да апошняга дня жыцця. Ён быў яшчэ ў росквіце святарскіх сіл, меў, напэўна, шмат душпастырскіх планаў, разам з якімі яго паклалі ў труну і пахавалі на Мёрскай зямлі.

Мы верым: нішто ў нашым жыцці не бывае выпадковым, Бог кіруе кожным з нас. Таму няпростае жыццё ксяндза Уладаса Пятрайціса, але адначасова жыццё веры, надзеі, нават насуперак надзеі, і любоўю да кожнага чалавека, і сама яго смерць хочуць сказаць нешта важнае. А менавіта тое, што ён быў добрым Пастырам, верыў, асвячаў і праз служэнне ў любові кіраваў сваімі парафіянамі да канца свайго жыцця, і гэтым заслужыў вялікі аўтарытэт у грамадстве.

Не хочацца верыць, што ўжо не будзе знаёмай і мудрай усмешкі, такіх адмысловых словаў суцяшэння і надзеі. Наш дарагі і шаноўны чалавек, ксёндз Уладас Пятрайціс, увайшоў ужо ў адчыненую браму Неба...

Мы памятаем сваіх памерлых святароў і атуляем іх пастаяннай малітвай. Выражэнне нашай удзячнасці – кветкі і знічы на месцы іх пахавання.

І мы хочам толькі папрасіць: добры Божа, дай усім памерлым святарам, а таксама нашым родным, блізкім, сябрам, знаёмым і ўсім хрысціянам вечнае спачыванне. І няхай святло вечнае ім свеціць!

## Ліст з турмы

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Газету "Каталіцкі Веснік" мне даслаў брат Яраслаў Крыловіч з ордэна братоў меншых капуцынаў. Пішу з месца пазбаўлення волі, а дакладней – з папраўчай калоніі ў Глыбокім. У нас ёсць капліца Божай Міласэрнасці. На жаль, вернікаў няшмат, усяго тры асобы. У калоніі адбываюць пакаранне людзі розных веравызнанняў, у асноўным праваслаўныя, але ёсць і католікі. Толькі яны не афішуюць сваю прыналежнасць да каталіцкай веры. І гэта крыўдна, бо гэта вера нашых бацькоў, нашай зямлі. Можа, дасць Бог, што людзі зразумеюць ісціну каталіцкай веры ў Пана нашага Езуса Хрыста і Яго Святую Маці Панну Марыю…*

*Вельмі спадабалася невялікая нататка "Эўхарыстычны цуд у Мексіцы" у газеце за жнівень 2013 года. Калі не паспею падпісацца на 4 квартал 2013 года, то абавязкова выпішу "Каталіцкі Веснік" у наступным годзе. Гэта пасільная сума, каб быць у курсе падзей, якія адбываюцца ў Віцебскай дыяцэзіі.*

*Звяртаюся да чытачоў "Каталіцкага Весніка": "Людзі, чытайце гэту газету, якая ўмацоўвае нашу бацькоўскую веру. А яшчэ памятайце ў сваіх малітвах пра людзей, якія знаходзяцца ў месцах зняволення. Я сам нясу пакаранне за вельмі цяжкі грэх".*

*Няхай падпіска на газету будзе ад мяне і ўсіх зняволеных католікаў з калоніі ў г. Глыбокае ахвярай нашаму Збаўцу. Шчыры дзякуй брату Яраславу. Беражы Вас Госпад!*

***Шышко Андрэй***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**27 кастрычніка 2013 г. Лк 18, 9 – 14**

Мытнік верыць у Божую любоў. Засяроджваецца на тым, што атрымлівае ад Бога. Ведае, што грэшны. Хоча супрацоўнічаць з ласкамі, атрыманымі ад Бога. Фарысей-крывадушнік. Будуе справядлівасць, абапіраючыся на свае і толькі свае сілы. Бог толькі дадатак да яго жыцця. Ён з'яўляецца Богам для самога сябе. Мы настолькі бываем узвышанымі, наколькі дазваляем падняць сябе збаўчай руцэ Бога.

*– Ці веру, што Бог любіць мяне?*
*– Ці бачу дары, атрыманыя ад Бога?*
*– Ці дзякую яму, ці праслаўляю Яго?*
*– Ці ўмею адкрыць усю праўду свайго жыцця перад Богам?*
*– А можа, не давяраю Яго любові?*
*– Ці* **супрацоўнічаю** *з Божымі дарамі і як гэта раблю?*
*– А можа, спадзяюся толькі на сябе?*
*– Ці знаходзіцца Бог у цэнтры майго жыцця?*
*– А можа, Ён толькі дадатак да майго жыцця?*
*– Ці разумею, што духоўнае ўзрастанне – гэта набліжэнне да Пана Бога?*
*– А можа, хачу толькі, каб іншыя добра пра мяне гаварылі?*
*– Ці пытаюся пра Божую волю?*
*– Ці выконваю яе?*

**3 лістапада 2013 г. Лк 19, 1 – 10**

Закхей шукае Езуса. Езус бачыць жаданні і намаганні чалавека. Езус прыйшоў у яго жыццё. Прысутнасць Езуса зрабіла, што Закхей пастанаўляе пераменіцца. Ніхто не знаходзіцца ў безнадзейнай сітуацыі. Езус прыйшоў да хворых, каб іх лячыць, шукаць і збавіць.

*– Ці шукаю Бога?*
*– Ці дазваляю Яму ўвайсці ў маё жыццё?*
*– Ці прымаю Яго з радасцю і надзеяй?*
*– Ці веру, што Ён мае моц вырваць мяне з цемры зла?*
*– Ці не саромеюся шукаць Езуса?*
*– Ці ўважліва Яго слухаю?*
*– Ці веру, што Яго навука прынясе мне шчасце?*
*– Ад чаго адракаюся, натхнёны Божай ласкай?*
*– Ці маю вопыт Божага збаўлення ў маім жыцці?*
*– Ці цаню прысутнасць Бога ў маім сэрцы?*
*– А можа, "перакрэсліваю" сябе, а таксама іншых грэшнікаў?*
*– Ці веру ў мудрасць і моц Пана?*

**10 лістапада 2013 г. Лк 20, 27 – 38**

Езус вучыць, што існуе жыццё вечнае. Неба перарастае зямное разуменне, зямное шчасце. Гэта прабыванне з дасканалым Богам, поўным любові. Бог ад веку клапоціцца пра чалавека і вядзе людзей да збаўлення. Ён верны абяцанням, якія даў нашым продкам. Жыццё на зямлі не мэта, але дарога. Дарога, якая вядзе да вечнага шчасця. На гэтай дарозе маем сябрам Бога, Які ёсць Гаспадар і Сонца неба.

*– Ці веру ў жыццё вечнае?*
*– Ці святкую нядзелю – Дзень Змёртвыхпаўстання Пана Езуса?*
*– Што з'яўляецца мэтай майго жыцця? Гэта часовае шчасце ці поўнае шчасце ў вечнасці?*
*– Ці памятаю ў штодзённым жыцці пра тое, што іду з Богам і да Бога?*
*– А можа, думаю, што буду жыць вечна на зямлі?*
*– Ці жыву ў асвячальнай ласцы?*
*– Ці рыхтуюся да смерці?*
*– Як гэта раблю?*

**17 лістапада 2013 г. Лк 21, 5 – 19**

Нельга захапляцца знешняй пабожнасцю, забываючыся пра душу і сэрца. Сапраўдным для Бога ёсць тое, што ў нашым сэрцы. Наша вернасць, наша любоў да Яго і давер нават у часы цярпенняў і пераследу. Ён нас не пакіне і дасць дух мудрасці, каб і сярод цяжкасцей мы заставаліся вернымі Яму. Трэба асцерагацца фальшывых прарокаў і фальшывай духоўнасці. У цяжкія хвіліны чалавек становіцца схільным да "бегання" за рознымі духоўнымі сенсацыямі. Таму Езус і засцерагае нас перад такімі спакусамі. Вернае трыванне пры Езусе – гэта гарантыя жыцця.

*– Ці памятаю пра будаванне Святыні свайго сэрца?*
*– Ці мая вера і набожнасць – гэта не толькі напаказ?*
*– Ці давяраю Богу?*
*– У чым гэта праяўляецца?*
*– Ці не пакідаю Яго пры найменшых цяжкасцях?*
*– Ці ў выпрабаваннях шукаю ў Бога мудрасці, цярпення, суцяшэння і зразумення?*
*– А можа, "бегаю" да бабулек ці да сектантаў?*
*– Ці разумею, як небяспечна звязвацца з фальшывай ідэалогіяй, сектай ці духоўнасцю?*
*– Ці давяраю і ці паслухмяны навукі Святога Касцёла?*
*– Ці змагаюся, каб верна стаяць каля Езуса ў кожным моманце свайго жыцця?*
*– Ці перапрасіў Бога за сувязь з магіяй і бязбожнымі культамі?*
*– Ці спавядаюся з-за гэтых грахоў?*

**24 лістапада 2013 г. Лк 18, 1-8**

Нават на крыжы Езуса спакушаюць, каб ўратаваў самога Сябе. Аднак Ён ратуе сваёй смерцю і ўваскрашэннем нас. Абвяшчае, што з'яўляецца Каралём міласэрнасці. Адчыняе дзверы свайго Каралеўства злачынцу, які пакаяўся. Яго ўлада – гэта моц, якая праяўляецца ў міласэрнай любові.

*– Ці верны я Богу ў цяжкія хвіліны?*
*– Можа, спрабую прымусіць Бога да дзеяння і збаўлення паводле маёй задумы? Або паводле задумы гэтага свету?*
*– Ці ў безвыходнай сітуацыі звяртаюся з надзеяй да Езуса?*
*– Ці веру ў моц любові?*
*– Ці веру ў моц міласэрнасці?*
*– Ці вучуся ад Езуса любові і міласэрнасці?*
*– Ці Езусава любоў і міласэрнасць валадараць у маім сэрцы?*
*– Ці вучуся ад Езуса любіць і прабачаць?*
*– Ці прашу Яго дапамагчы мне лепш любіць і прабачаць?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Нясвіж – Мір – Івянец: падарожжа з Богам у сэрцы

**Сёмага верасня 43 паломнікі з Шаркаўшчыны і раёна выправіліся ў падарожжа, каб наведаць сакральныя мясціны нашай краіны – Нясвіж, Мір, Івянец. А арганізаваў такую пілігрымку наш зямляк ксёндз Лучайскага касцёла Мікалай Ліпскі. Дарэчы, на працягу ўсяго падарожжа ён быў з намі. Разам з гідам яны імкнуліся азнаёміць з мясцінамі прыгожай, цудоўнай краіны і стараліся, каб гэтая вандроўка стала для кожнага цікавай і запамінальнай, каб мы зразумелі, наколькі багатая гісторыя нашай Радзімы.**

■ **Кацярына Сосна**, *г.п. Шаркаўшчына*

### Нясвіжскі касцёл

У прызначаны час прыехалі ў горад Нясвіж, і перад намі адкрылася велічная святыня – фарны касцёл Божага Цела. Спецыяльна для пілігрымаў праводзілася Імша. Узначальваў яе ксёндз Мікалай Ліпскі, а дапамагаў яму тутэйшы пробашч.

Сучасны фарны касцёл Нясвіжа быў першым і застаўся адзіным са шматлікіх некалі каталіцкіх касцёлаў горада. Гэта архітэктурны помнік стылю ранняга барока – першы езуіцкі касцёл на тэрыторыі ВКЛ, а таксама першая крыжова-купальная базіліка з бязвежавым барочным фасадам на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, з родавым магільным склепам князёў Радзівілаў. Касцёл занесены ў спіс Сусветнай спадчыны ЮНЭСКА. Варта нагадаць: гэта адзіная святыня, што засталася на тэрыторыі сучаснай Беларусі, у якой некалі маліўся святы Андрэй Баболя.

### Замак Радзівілаў

Далей мы накіраваліся ў замак Радзівілаў. Першае пісьмовае ўпамінанне пра яго адносіцца да 1446 года. Велічна і прыгожа ўздымаецца гарадкрэпасць. Нясвіжскія Радзівілы сталі да сярэдзіны 18 стагоддзя ўладальнікамі сапраўды неагляднага багацця і розных тытулаў. Кожны займаў якуюнебудзь важную пасаду. З роду Радзівілаў выйшла звыш 40 сенатараў – больш як з любога іншага знакамітага роду Рэчы Паспалітай.

Інтэр'еры пакояў замка дыхалі вялікай раскошай. З галоўнага вестыбюля з шырокай трохмаршавай лесвіцай, упрыгожанай фрэскамі на тэму ваярскіх трыумфаў, пачынаўся шраг парадных залаў і галерэй, якія заслугоўваюць толькі захаплення.

### Мір

Наступны наш прыпынак – музей "Замкавы комплекс "Мір", што ў Карэліцкім раёне Гродзенскай вобласці. Першае пісьмовае ўпамінанне аб Міры – 1395 год. А ўжо ў 1527 годзе ёсць згадка пра Мірскі замак.

З вялікім багажом уражанняў накіроўваемся ў Івянецкі музей традыцыйнай культуры. Але перш чым трапіць на свята, якое там праводзілася (а гэта быў цукеркавы фэст "Іўкон", які ладзіла кандытарская фабрыка), завіталі ў мясцовую святыню. Каля касцёла парафіі Святога Міхаіла Арханёла нас сустрэў ксёндз Лех Бахэнак, які расказаў пра гісторыю стварэння будынка. Дарэчы, у мястэчку Івянец звыш 4 тысяч насельніцтва, 80-90 працэнтаў з якіх – каталікі.

Адным з найбольш распаўсюджаных на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага быў ордэн францішканцаў. І ў 1994 годзе айцам-францішканцам былі перададзеныя гістарычныя будынкі кляштара і пачаліся работы па яго ўзнаўленні. У некаторых памяшканнях у савецкія часы быў цэх эксперыментальна-даследчай вытворчасці Мінскага праектна-канструктарскага тэхнала-гічнага інстытута. У 2003 годзе распачалася комплексная рэстаўрацыя касцёла. Працы яшчэ вельмі многа. Важна адзначыць, што кожны год каля касцёла праходзіць Усебеларуская сустрэча моладзі.

З пілігрымкі мы вярталіся назад, калі сонца пайшло на змяркане і неба ўсыпалі зоркі. І ўсё ж па прапанове ксяндза Мікалая Ліпскага наведалі касцёл у Лучаі. Святар падрабязна расказаў пра яго гісторыю. Там мы памаліліся Богу і падзякавалі святару за такое цудоўнае падарожжа.



**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

***Паважаны ксёндз Віктар Місевіч!***
*Віншуем Вас з Днём нараджэння!*
*Зычым апекі ўсіх святых і Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень, дароў Святога Духа, моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.*

***Галіна Глушкевіч, Алена Кушаль, Алімпія Цішко** з парафіі Св. Яна Хрысціцеля*

**Хвала Хрысту!**

*Вось хутка год, як да нас у парафію прыехаў брат Яраслаў Крыловіч. Мы дзякуем яму за службу на хвалу Пану Богу.*
*Віншуем Вас, брат Яраслаў, з Днём нараджэння (26 верасня). Жадаем Божай ласкі, моцнага здароўя, усяго самага добрага!*

*Удзячныя вернікі з парафіі Св. Яна Хрысціцеля ў в. Валкалаты*

**Што паглядзець?**



## "Гравітацыя"

**Фільм "Гравітацыя", прэм'ера якога ўжо прайшла ў кінатэатрах Мінска, атрымаў шмат добрых водгукаў у кінакрытыкаў. Стужка, нягледзячы на просты сюжэт, захапляе. Напэўна, яна будзе цікавая тым, хто захапляецца космасам, але не толькі.**

■ **кс. Віктар Місевіч**

Доктар Раян Стоўн, якую іграе Сандра Булак, і ветэран астранаўтыкі Мэт Кавальскі (у выкананні Джорджа Клуні) разам з камандай паплечнікаў накіраваныя на калязямную арбіту, каб правесці рамонтныя работы на тэлескопе "Хабл".

Падчас працы ў адкрытым космасе астранаўты атрымліваюць экстраннае паведамленне з Зямлі: місію спыніць і неадкладна вяртацца на шатл. Прычына ў касмічных аскепках з пашкоджанага спадарожніка, якія рухаюцца ў бок астранаўтаў.

Тэрміновыя дзеянні экіпажу застаюцца безвыніковымі. Гінуць усе, апрача Кавальскі і Стоўн. Ім давядзецца пазмагацца за жыццё, таму што прабыванне ў адкрытым космасе не можа працягвацца доўга.

Фільм "Гравітацыя" з тэхнічнага боку бездакорны. Гледзячы яго, немагчыма ўявіць, што сцэны з космасу створаныя якраз на зямлі з дапамогай камп'ютарнай графікі. Можна нават сказаць, што відовішчных карцін крыху замала. Так і хочацца паглядзець на ўзыход Сонца над Зямлёй яшчэ і яшчэ. Але наколькі захапляе сваім блакітам нашая родная планета, настолькі палохае сабой неабсяжная далечыня космасу!

У самым пачатку фільма з-за катастрофы доктар Стоўн аказваецца адкінутай ад шатла і бездапаможна рухаецца ў бок ад Зямлі, у бясконцую чарнату. Стваральнікам стужкі ўдалося падкрэсліць гэты трагічны момант, паказаўшы адзінокага астранаўта на фоне блізкай і адначасова недасяжнай Зямлі і мноства бліскучых зорак удалечыні.

Не адпускай мяне! – такі слоган фільма. Гэтыя словы вышэптвае доктар Стоўн капітану Мэту ў момант, калі паратунак, здавалася б, быў так блізка. Фільм хоць і зачароўвае тэхнічнай дасканаласцю сцэн, аднак у ім прасочваюцца і глыбокія філасофскія пытанні.

Што рабіць перад абліччам смерці? Ці варта змагацца, калі вакол толькі смяротная цішыня? Калі заканчваецца кісларод, няма паліва і нішто не парушае маўклівага радыёэфіру? Можа, лягчэй здацца? Кінуць усё на самацёк? А што чакае на Зямлі? Такая ж адзінота. Доктар Стоўн перажыла калісьці ўласную трагедыю, калі загінула яе маленькая дачка. Да каго вяртацца? І да каго звяртацца, калі словам малітвы ніхто не навучыў – скардзіцца жанчына. "Можа, ты за мяне памолішся?" – са слязамі яна пытаецца ва ўяўнага суразмоўцы, які яе зусім не чуе.

Разам з тым цяга да жыцця з маленькай іскрынкі разрастаецца ў магутную сілу. І не без Божай дапамогі. Не хочацца цалкам апісваць падзеі, каб не раскрываць увесь сюжэт фільма. Таму тым з чытачоў, хто наважыцца паглядзець "Гравітацыю", раю асабліва пільна прасачыць за сцэнай у расійскім касмічным караблі. Падзеі, якія набіраюць ход у гэтай сцэне, немагчыма растлумачыць інакш, як Божым умяшальніцтвам.

Фільм рэжысёра Альфонса Куарона не пакіне абыякавым гледача. І не толькі таму, што аператар Эмануэль Любецкі ўклаў у яго ўсё сваё майстэрства. "Гравітацыя" прымушае задумацца і шукаць адказы на пытанні: дзе цэнтр майго прыцяжэння? Што для мяне самае важнае? Ці даражу я жыццём? Ці ўмею я заўважаць Божую прысутнасць і прысутнасць іншага чалавека ў сваім жыцці?

Іна заканчэнне маленькая практычная парада. Фільм "Гравітацыя" варта глядзець у 3D фармаце ў кінатэатры або на якаснай апаратуры хатняга кіно. Тады эфект прысутнасці спрацоўвае на ўсе сто адсоткаў. Глядач становіцца непасрэдным удзельнікам касмічнай місіі. А хто з нас не хацеў бы пабываць у космасе?

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дзяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 7910

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3100 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 28.10.2013 г. у 08.55

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621
9772224962006

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ